Ня ў больш прыемных варунках, як перадаець, гэныя бедакі знайходзяцца і тыя з беларусаў, што засталіся ў Літве, асабліва з тых, якія ў свой час былі гэткім жорсткім спосабам выдалены з Віленшчыны, з г. зв. тады Сярэдняй Літвы, ў памятнай лічбе 33-х. Няўжо цяпер нельга было-б ім вярнуцца назад, у Віленшчыну?

Няхай-бы справай гэтай заняўся Беларускі Пасольскі Клюб.

**Банадысь Кукеляўскі.**

**Ад Рэдакцыі.** Ня маючы сталай пэўнасьці ў вышэй пададзеных вестках, рэдакцыя усё-ж зьмяшчае іх, бачучы ў некаторых з іх значную долю праўды.

# З Масквы.

## Сярод студэнтаў-беларусаў.

2-га чэрвеня г. г. у памяшканьні Беларускага прадстаўніцтва адбыўся беларускі студэнцкі дэлегацкі сход. Сход склікан па ініцыятыве Управы Беларускага Студэнцкага Клюбу імя С. Булата. Былі прадстаўлены бадай усе вышэйшыя навуковыя ўстановы г. Масквы, якіх тут каля 20.

Пэўных падлікаў студэнтаў, выхадцаў з этнаграфічнае Беларусі, тут не рабілася, але іх у Маскве шмат: каля 2000 чал.

Дзеля абароны эканамічных інтарэсаў і вядзеньня культурнай працы сярод беларускага студэнцтва прызнана патрэбным яго моцная арганізацыя. Лепшай формай арганізацыі павінны зьявіцца студэнцкія зямляцтвы па губэрскаму прынцыпу, альбо беларускія студэнцкія гурткі і асацыяцыі. Студэнты-беларусы, ураджэнцы даўнейшых губэрняў Менскай, Горадзенскай і Віленскай складаюць пры кожнай навуковай установе беларускія зямляцтвы; студэнты-беларусы даўнейшай губ. Магілёўскай і беларускіх паветаў Чарнігаўскай — Гомельскае зямляцтва, студэнты-вітабчане — Вітабскае зямляцтва і г. д.

Далей будуць створаны маскоўскае бюро беларускіх зямляцтваў, бюро гомельскіх, вітабскіх і смаленскіх зямляцтваў і, над імі ўсімі Цантровае Бюро беларускіх студэнцкіх аб'яднаньняў.

На гэтым-жа сходзе было абабрана гэткае часовае (да склікаsucc агульнага сходу) бюро беларускіх студэнцкіх арганізацый, куды ўвайшло 5 чалавек і 2 кандыдаты студэнтаў-камуністаў-беларусаў. Бюро павінна будзе падбаць аб канчальным аб'яднаньні студэнтаў-беларусаў як па асобных навучальных установах так і ў Маскоўскім абхваце, павясьці шырокую культурна-асьветную працу праз беларускі клюб і глыбокую навукова-дасьледчую працу ў сэкцыях, вырашыць асабліва важнае пытаньне аб беларускім студэнцкім органе-журнале, сазваць агульны сход студэнтаў-беларусаў г. Масквы.

А студэнты-беларусы павінны будуць праламаць сваё знаньні праз прызму беларускіх асаблівасьцяў, прыгатавацца да працы на беларускай мове, вывучыць мову таго народу, сярод якога будуць працаваць, і вярнуцца культурнымі працаўнікамі на сваю бацькаўшчыну.

**Удзельнік сходу.**

# Да нашых падпішчыкаў і чытачоў.

„**Наш Сьцяг**“ адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны, хто жадае эканамічнага дабрабыту для сваей Бацькаўшчыны, каму дорага справа яе адраджэньня, хто шануе матчыну мову павінен чытаць „**Наш Сьцяг**“, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць, хто чым можа.

Сучасная ўсё ўзрастаючая дарагоўля стварае цяжкія варункі для выданьня газэты. Ад грашовага падтрыманьня праз беларускае грамадзянства залежыць рэгулярны выхад нашай часопісі.

Усе, дзеля сваей карысьці, падпісывайцеся на „**Наш Сьцяг**“—усе гуртуйцеся пад наш сьцяг!

Рэгулярна ўнасіце падпіску і даплаты.

Асабліва заклікаем амэрыканскіх беларусаў і надалей надзеляць сваей дапамогай, каб не ўпаў **наш сьцяг** на беспатольнай Бацькаўшчыне.

**Рэдакцыя і адміністрацыя.**

# Нядбайства сялян.

Калі трапляецца ў сялян няшчасьце з жывёлаю, дык у гэтым яны вінаваты самі, дзякуючы свайму нядбайству. Бываюць часіны, калі селянін з багатага робіцца бедняком. Бывае так, што ўся яго жывёла за адзін ці два месяцы загіне. Цяжка яму тады стаць зноў на ногі, цяжка нажыць тое, што набывалася гадамі.

Такі вясковы гаспадар і кажа сам сабе:

— Здаецца, я добра кармлю і шаную сваю скаціну, а яна штосьці ў мяне марнее і гіне. Вось цяпер я гол, як сакол. „Божая кара“ ды й годзе.

А таго селянін ня ведае, што тут ня „божая кара“, а яго ўласная нядбайнасьць. Яго жывёла падохла з тэй прычыны, што хлеў кепскі, халодны, мала падсьцілу, шмат бруднасьці навакол хлява, у хляве і ўсюды. Раз пошасная хвароба ўлезла ў хлеў, дык яе адтуль цяжка выкурыць.

Гэта адна прычына. Ёсьць яшчэ адна прычына.

Здохне, напрыклад, конь. Селянін, ня доўга чакаючы-зараз жа капае на двары яму ды яшчэ блізка дзе небудзь каля студні і засыпае труп. Яма выкапана няглыбока, труп гніе, зямля асядае ўніз, размываецца вадою, разрываецца сабакамі, і хвароба няпрыкметна, памаленьку разносіцца па вёсцы.

Яшчэ і так бывае Гаспадар выцягне падаль за гумно і там кіне не закапаўшы. Яна там валяецца доўгі час. Пошасьць разносяць ня толькі сабакі, але ў цёплы час вецер і мухі. Прайсьці ці праехаць каму не будзь навокал гэтай мясьціны вельмі цяжка — носіцца смурод,

Я, як вясковы жыхар, кожны дзень бачу, што робіцца навокал.

У аднэй знаёмай мне вёсцы з студзеня па 15-ае мая згінула 14 ць каней і 14 гаспадароў засталіся ў вельмі цяжкім становішчы.

Павятовы вэтэрынар прызнаў, што большая частка каней здохла ад вельмі пошаснай хваробы „сібірскай язвы“. Коні гінулі праз 1-2 дні.

Прычынай гэтай хваробы, як прызнаў вэтэрынар, быў згінуўшы ў прошлым годзе ў канцы чэрвеня конь за 4 вярсты ад вёскі, які быў кінуты падарожным. Конь валяўся дзён тры па дарозе, а пасьля быў вельмі няглыбока закопан.

Цяпер-жа па некаторых вёсках зьявілася нейкая хвароба на сьвіньней, якая згубіла вельмі шмат. Прызнаюць, што гэта неякая „заўшыца“. Свіні гінуць праз суткі. Гэтая хвароба, мусіць, вельмі заразьлівая, бо яна ў кожнаю вясну не забывае вясковых сялян — нішчыць іх гаспадарку, якую вельмі цяжка набыць.

Каб пошасная хвароба не пагражала дабрабыту селяніна, трэба зараз-жа хворую жывёлу адлучыць ад здаровай. Ніколі ня трэба здымаць скуры з дохлай скаціны, калі невядома ад якой прычыны яна здохла. Калі захварэе жывёла, гаспадар павінен зьвярнуцца зараз-жа да вэтэрынара. Трэба закапываць труп на спэцыяльна адведзеных для гэтага мясцох на глыбіні 3-х і ня менш $2^1/_2$ арш. Пры схаваньні трупаў вельмі добра абсыпаць іх вапнаю, а калі няма вапны, дык заместа яе можна абсыпаць попелам.

У хлеве, дзе захварэла і здохла жывёла, таксама трэба зрабіць дэзынфэкцыю, якую скажа вэтэрынар.

Трэба, каб кожны гаспадар добра ведаў, што нядбайства і няведаньне зьнішчаюць ня толькі яго гаспадарку, але гаспадарку і ўсяе вёскі. Кожны гаспадар павінен быць алпаведным як сам перад сабою, так і перад усімі грамадзянамі вёскі.

Апрача ўсяго, трэба страхаваць жывёлу. Такім чынам у выпадак няшчасьця, гаспадар можа купіць другую жывёлу за грошы, якія выдае страхавое таварыства.

**І. Дубок.**

# Усячына.

## Роднае мілей.

Згодна з умовай паміж Францыяй і Нямеччынай, апошняя аддала ў ліку кантрыбуцыі і вялікую лічбу вульлёў з пчаламі. Завезеныя ў Францыю пчолы па кінулі вульлі і, як даводзяць зробленыя досьледы, гэтыя мудрыя стварэнцы зноў адляцелі на папярэдняе мейсца свайго прабываньня.

## Рэдкае градабіцьце.

25 траўня ў Балцкім пав., Адэскай губэрні выпаў надта вялікі град, якога, можа, ня ведала да гэтага навука.

Град ішоў разам з дажджом і навальніцай. У хатах павыбіла вокны. Вада змывала градзіны ў даліны, дзе парабіліся бугры з лёду ў 2 аршыны вышыні. Іх занесла пяском, і гэтыя бугры ляжалі некалькі дзён. Жыта ва ўзрост чалавека зьбіта так, што цяжка пазнаць, дзе было пасеена, а дзе не пасеена. Вада зьнесла ўсё зьбітае. У далінах зьявіліся рэчкі да 2 аршын глыбіні. Сярэдняя вялічыня градзін была 2 фунты, але спатыкаліся крыгі да 2 пудоў вагі. У вёсцы Нестоітах такая градзіна прабіла хату наскрозь і зарылася ў зямлю. У Бірзулі агэнт дзяржаўнага страхаваньня бачыў у раённым выканаўчым камітэце прывезеную градзіну, якая была зважана і пацягнула 1 пуд 30 фунтаў. Лічаць, што гэты град зьнішчыў у Балтскім пав. 8000 дзесяцін засеву.

# Наша пошта.

**Гр. Глебу у Будславе.** Просімо дапамагчы сваёй радай таму грамадзяніну, якому даручана было прадаваць беларускія газэты ў Будславе ў часе мітынгу, 2./VII., як выслаць у рэдакцыю нашае газэты грошы за прададзеныя там нумары.

## Ахвяры на прэсовы фонд.

Ад грамадзян гор. Слоніма па падпісному лісту 100.000 мар. польскіх.

1) Сабрана на беларускім мітынгу ў м. Чарневічах Дзісьненскага павегу . . . . . . 64.000 м. п.

2) Сабрана на беларускім мітынгу ў м. Дзісьне . . . . . . . . . . . . . . . 28.500 м. п.

3. Я. Строк . . . . . . . . . 5000 м. п.

4. Ч—к. . . . . . . . . . 7500 м. п.

# Курс на грошы.

**Варшава 16 ліпеня.**

| | |
|---|---|
| Доляры . . . . . . . . . | 113.000 |
| Бяльгійскія франкі . . . | 5.350 |
| Нямецкая марка . . . . . | 0.52 |
| Франкі . . . . . . . . . | 6.400 |
| 10 руб. золатам . . . . . | 825 |

# Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, I I Слабодка 8.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеускі.
5) **Наваградак**, Вялікі Рынак 14.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22.
8) **Горадня**, Мастовая 9.
9) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв. 1
10) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
11) **м. Кляшчэлі**, Бельскага павету.
12) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
13) **Пружаны**, Вуліца кс. Буткевіча, 16.
14) **Беласток**, Нова-Варшауская вул. № 83.

**Беларускі Пасольскі Клюб**, Варшава, Вейская вул. Сойм.

*Пішыце да нас аб жыцьці—быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Нашага Сьцягу“ будзе і яго супрацоўнікам.*



**Падтрымовывайце „Наш Сьцяг!“**


Рэдактар-выдавец **Я. Лагіновіч.**

Друкарня **Левін і Сын**, Нямецкая 22